ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 37 28 верасня 1995 г.

(2439) Выдаецца з 1955 г. Цана 800 рублёў.

## СВЯШЧЭННЫ АГОНЬ АДЗІНСТВА



**Выдатнай падзеяй у духоўным жыцці хрысціян стала передача ў канцы мінулага тыдня праваслаўнай царквой Беларусі Свяшчэннага Агню ад Труны Гасподняй каталіцкай царкве. Тысячы вернікаў, праваслаўных і католікаў, сабраліся каля кафедральнага сабора, дзе мітрапаліт Філарэт перадаў Свяшчэнны Агонь кардыналу Казіміру Свёнтаку, які ў праваслаўным храме выказаў сваю падзяку.**

**НА ЗДЫМКУ: сустрэча прадстаяцеляў беларускіх прав ўнай і каталіцкай цэркваў перад кафедральным саборам. (Заканчэнне фотарэпартажу н й стар.).**

*ТУТ НАРАДЗІЎСЯ Марк ШАГАЛ*

## ВУЛІЦА, ЯКУЮ ВЕДАЮЦЬ У СВЕЦЕ

**Адной з надзвычай цікавых старонак гісторыі любога горада з'яўляецца гісторыя яго вуліц. Разгляд гэтых гарадскіх аб'ектаў у часе дазваляе выявіць пэўную логіку іх унутранага развіцця, неад'емную ад логікі развіцця большых супольнасцей (горада, нацыі). Рэканструяванне знешняга выгляду вуліц, асобных падзей і эпізодаў з іх гісторыі напаўняе канкрэтным зместам саму нашу гісторыю, набліжае яе да сучасніка.**

**Прапаную шаноўнаму чытачу пазнаёміцца з некаторымі старонкамі гісторыі Пакроўскай вуліцы ў Віцебску. Дзякуючы творчасці вялікага яўрэйскага мастака Марка Шагала, пра гэтую беларускую вуліцу сёння ведаюць ва ўсім свеце. "Тут, на Пакроўскай вуліцы, я нарадзіўся другі раз", -- успамінаў мастак у сталыя гады. У аўтабіяграфічнай кнізе "Маё жыццё", якая была выдадзена ў Парыжы ў 1931 годзе, Шагал напісаў пра час свайго знаходжання ў Віцебску: "Калі маё мастацтва не адыгрывала ніякай ролі ў жыцці маіх родных, то іх жыццё і іх учынкі, наадварот, моцна паўплывалі на маё мастацтва". Думаецца, гэтыя словы з поўным правам можна аднесці як да вузкага сямейнага атачэння мастака, так і да больш шырокага кола яго суседзяў, ладу і рытму жыцця насельнікаў Пакроўскай вуліцы.**

### ДАРОГА ДА ХРАМА

Час узнікнення Пакроўскай вуліцы ў Віцебску, хутчэй за ўсё, варта аднесці да сярэдзіны або пачатку 2-й паловы XVIII стагоддзя. Менавіта з гэтага часу вядома драўляная царква "Пакрава Багародзіцы на могілках за Дзвіною", якая размяшчалася на правабярэжжы ў паўночнай частцы горада ля гарадской мяжы (акопа). Мясцовасць гэтую ў народзе здаўна называлі Прысмушкамі ад наймення слабады, што размяшчалася на беразе Дзвіны і межавала з гарадскімі сялібнымі землямі. У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь мне пашчасціла адшукаць "Геаметрычны спецыяльны план Віцебскага павета слабодкі Прысмушак", датаваны 1784 годам. Уладаром слабодкі быў шляхціц Міхайла Сямёнаў -- сын Лапа. Яе жыхары займаліся рамёствамі, але часткова яшчэ былі звязаны з сельскай гаспадаркай. Прысмушкі налічвалі 8 дзесяцін ворнай зямлі, 1 дзесяціну сенажацяў, 1 дзесяціну берагавой паласы. Дзве дзесяціны зямлі былі заняты самім паселішчам, агародамі і канаплянкамі. Насельніцтва слабодкі налічвала "мужеска полу 30, женска тож число" чалавек. З цягам часу паселішча злілося з горадам, перадаўшы сваю назву цэламу раёну.

У пачатку XIX стагоддзя Пакроўская царква на Прысмушках пачала паступова прыходзіць у заняпад. На плане горада 1838 года яна была пазначана ўжо як занядбаная і пакінутая па старасці. Канчатковае знішчэнне драўлянага храма прыпадае на 1860-я гады. Аднак у горадабудаўнічым сэнсе царква адыграла належную ёй ролю: пры стварэнні рэгулярнага плана Віцебска была ўлічана і на стагоддзі зафіксавана гістарычная планіроўка вуліцы, што вяла да храма і атрымала назву Пакроўскай.

Пасля падаўлення вызвольнага паўстання 1863 года, калі царскі ўрад імкнуўся актывізаваць працэс русіфікацыі краю шляхам пашырэння сеткі праваслаўных храмаў, была аднаўлена і Пакроўская царква.

**(Працяг на 6-й стар.).**

**АСАБІСТЫ ПОГЛЯД**

## БЕЛАРУСЬ — ЛІТВА: ШЛЯХІ РАЗЫШЛІСЯ

Скончылася лета. Мінуў час адпачынку, а з ім і ўсе клопаты, дзе і як яго правесці. Варта адзначыць, што праблема адпачынку ў Беларусі знікае пацііху сама па сабе, або, лепш сказаць, робіцца прывілеяй абсалютнай меншасці насельніцтва. У мінулым годзе, напрыклад, правесці 12 дзён на Нарачы каштавала каля 25 долараў. Тая ж самая пуцёўка сёлета абышлася б ужо ў 100 долараў. Мяркую, прыгадваць экзатычныя сусветныя курорты і наогул не варта: за два тыдні адпачынку на іх трэба выкласці ад 500 да 1 000 долараў за [illegible]авека. Вось і мусіць пер[illegible]ная большасць беларусаў е[illegible] у вёскі да сваякоў і на свае дачы, каб нарыхтаваць нейкія харчы на зіму і, перамяніўшы працу, "адпачыць". Ну а калі няма ні дачы, ні сваякоў у вёсцы? Мая сяброўка, улюб[illegible]ая ў Літву і Палангу, у пры[illegible]асці, пераканала мяне, шт[illegible]ам пакуль яшчэ можна адпачыць прыстойна і даволі танна, і сама з'ехала туды першай. Праз тыдзень (менавіта столькі часу патрэбна, каб аформіць візу) да яе далучылася і я са сваімі двума дзецьмі.

Адкрывалася магчымасць паназіраць і адначасова параўнаць наша жыццё з тым, як перажываюць сучасныя эканамічныя цяжкасці нашы былыя суграмадзяне па Саюзу. Параўноўваць заўсёды цікава (і карысна). Рабіць гэта ў Літве было тым больш цікава, таму што на ўсім доўгім шляху гістарычнага развіцця лёсы літоўцаў і беларусаў неаднаразова перакрыжоўваліся. У сярэднявеччы разам яны ўваходзілі ў склад магутнай дзяржавы Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. У XX стагоддзі разам існавалі ў вялікай імперыі -- СССР. Здавалася б, гістарычная спадчына ў нас адна, агульнай была і "стартавая пляцоўка", з якой рушылі адбудоўваць кожны сваю дзяржаўнасць, але сёння ўжо відавочна, што менталітэты двух суседніх народаў вельмі розняцца, а іх шляхі да дасягнення сваіх мэтаў разышліся і скіраваны цяпер у супрацьлеглыя бакі. Але лепей усё па парадку.

Сёння для літоўца няма праблемы выехаць у любую краіну Еўрапейскай супольнасці, і віза для гэтага ім не патрэбна. На мяжы з былымі суграмадзянамі па Саюзу, як і дзве іншыя балтыйскія краіны -- Латвія і Эстонія, павесілі літоўцы "вялікі замок". Беларусы ж, як і раней, каб трапіць у далёкае замежжа, павінны атрымаць візу. Больш таго, часцей за ўсё яны мусяць ехаць па яе ў Маскву. Пасля развалу Саюза да спісу візавых краін далучыліся тры балтыйскія дзяржавы. Адметна, што атрымаць візу да іх часам цяжэй, чым у Польшчу, нават Германію. Літоўская віза каштуе 10 долараў, тэрміновая -- 15. Акрамя таго, трэба быць гатовым правесці не адну гадзіну ў пасольстве Літвы. Вядома, можна выкарыстаць паслугі шматлікіх турыстычных бюро, але тады віза будзе каштаваць у тры і болей разоў даражэй. Выправіўшы нарэшце пашпарт, можна збірацца ў падарожжа.

Адразу варта папярэдзіць, што ў Літву цяпер, каб пазбавіцца нечаканасцей на мяжы, лепей ехаць на аўтобусе або цягніку. У правільнасці такога выбару можна адразу пераканацца, калі мінаеш чаргу з прыблізна двухсот аўтамабіляў і фураў як з аднаго, так і з другога боку. Пры праездзе на аўтобусе пашпартны і мытны кантроль займае ўсяго каля паўгадзіны. Такім чынам, без асаблівых прыгод аўтобус Мінск-Паланга перасек мяжу, і за акном замільгалі літоўскія краявіды, такія ж прыгожыя, як і беларускія. Увогуле спачатку не вызначаеш якіх-небудзь адрозненняў, усё падаецца вельмі падобным. Толькі з цягам часу пачынаеш заўважаць, што розніца ва ўсім: у жытле, прысадах, гаспадарцы. Няма ў Літве той неахайнасці і занядбанасці, якую можна сустрэць у нашых вёсках, ва ўсім адчуваецца гаспадарская рука, цяга да прыгажосці, эстэтычны густ.

На аўтавакзале ў Палангзе чакала першая неспадзяванка. Тут я заўважыла, што той самы квіток на праезд, за які я ў Мінску заплаціла 166 тысяч беларускіх рублёў, або 14,5 долара, у адваротны бок каштуе 49 літаў, або 12,25 долара. (Нагадаю, 1 долар -- гэта 4 літы ці 11 500 беларускіх рублёў).

Паланга, некалі вядомая саюзная здраўніца, цяпер ператварылася амаль у выключна літоўскі курорт. Адпачываючых з-за мяжы -- вельмі мала. Сюды прыязджаюць літоўцы разам з сем'ямі з усіх куткоў краіны на выхадныя, на тыдзень, на месяц, каб падыхаць марскім, напоеным ёдам і азонам паветрам. Увесь доўгі (15 кіламетраў) пляж кішэў дзецьмі: ад немаўлятак у калясках да падлеткаў і юнакоў. Кошт пражывання як і ўмовы адпачынку, самы розны: 40--100 літаў у дзень (са сняданнем) у санаторыях і Дамах адпачынку і ўсяго 7--10 літаў у прыватным сектары. Наогул, Паланга нагадала мне вялікі мурашнік, дзе ўсе, малыя і старыя, працуюць з ранку да ночы. Тут адчуваецца канкурэнцыя, дзейнічаюць рынкавыя адносіны: за кліента змагаюцца, на яго працуюць, для яго ствараюць умовы.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

## ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ВІЗІТЫ*

### А. ЛУКАШЭНКА І В. ЧАРНАМЫРДЗІН АБМЕРКАВАЛІ ПРАБЛЕМЫ ІНТЭГРАЦЫІ

**Своеасаблівым палігонам інтэнсіфікацыі інтэграцыйных працэсаў краін СНД сталі адносіны паміж Беларуссю і Расіяй. Такі вывад можна зрабіць па выніках праведзенай 19 верасня рабочай сустрэчы Прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі з прэм'ер-міністрам Расійскай Федэрацыі Віктарам Чарнамырдзіным. Яна праходзіла ў Маскве ва ўрадавай рэзідэнцыі на Вераб'ёвых гарах.**

**Спачатку Аляксандр Лукашэнка і Віктар Чарнамырдзін сустрэліся сам-насам, а паралельна ішлі перагаворы дэлегацый. Потым кансультацыі былі прадоўжаны прадстаўнікамі бакоў у расшыраным саставе.**

**На праведзенай пасля заканчэння перагавораў прэс-канферэнцыі Віктар Чарнамырдзін заявіў, што сёння ўсе разумеюць неабходнасць цеснай інтэграцыі, паэтапнага пераходу да больш эфектыўных адносін у рамках эканамічнага саюза дзяржаў Садружнасці.**

**Адказваючы на пытанне аб тым, што Беларусь усё часцей выходзіць з ініцыятывамі па эканамічных праблемах, Аляксандр Лукашэнка адзначыў:**

**-- Гэта тлумачыцца простай логікай: нашы прадпрыемствы павінны працаваць на нашы народы. Раней эканоміка Беларусі была разлічана на палову вытворчасці тавараў для Расіі, на чвэрць -- на свае ўнутраныя патрэбы і столькі ж -- на экспарт у трэція краіны. Таму размова сёння ідзе аб паглыбленні адносін. Але любы наш крок павінен звярацца з жыццём людзей.**

**Абодва ўдзельнікі прэс-канферэнцыі пацвердзілі, што хоць у цэнтры ўвагі праведзеных перагавораў былі эканамічныя пытанні і галоўнае з іх -- адмена экспартных мытных пошлін для таваравытворцаў, бакі абмеркавалі таксама ўнутрыпалітычныя праблемы. У прыватнасці, размова ішла аб падрыхтоўцы да парламенцкіх выбараў, якія хутка адбудуцца і ў Беларусі, і ў Расіі.**

**Асобным прадметам перагавораў стала абмеркаванне праблем, звязаных з выкарыстаннем ваенных і грамадзянскіх аэрапортаў дзвюх краін.**

### ПЕРАМАГЛА ДРУЖБА

**Пасля Масквы прэзідэнт Лукашэнка накіраваўся ў Сочы, дзе сустрэўся з міністрам абароны Расіі Паўлам Грачовым і дырэктарам Федэральнай службы бяспекі Міхаілам Барсуковым.**

**21 верасня ў сочынскай рэзідэнцыі кіраўніка расійскай дзяржавы адбылася сустрэча сам-насам Аляксандра Лукашэнкі і Барыса Ельцына. Як стала вядома, размова ішла аб уступленні Беларусі і Расіі ў перыяд сталага супрацоўніцтва, якое адрозніваецца перш за ўсё ўлікам нацыянальных інтарэсаў кожнага з бакоў. Пасля заканчэння двухгадзіннага дыялога Аляксандр Лукашэнка і Барыс Ельцын, вядомыя аматары тэніса, правялі сяброўскую сустрэчу на адкрытым корце. "У выніку матча перамагла дружба", -- заявілі абодва прэзідэнты.**

### СУПРАЦОЎНІЦТВА НА ПАДСТАВЕ РАЎНАПРАЎНАГА ПАРТНЁРСТВА

**Падпісаннем Пагаднення аб узаемных бязвізавых паездках грамадзян, згодна з якім славакі і беларусы змогуць прыязджаць адзін да аднаго па звычайнаму замежнаму пашпарту без візы, калі тэрмін іх знаходжання на тэрыторыі гэтых дзяржаў не перавышае 30 дзён, закончыліся перагаворы міністраў замежных спраў Славакіі Юрая Шэнка і яго беларускага калегі Уладзіміра Сянько.**

**Дагавор аб дружбе і супрацоўніцтве паміж дзвюма дзяржавамі, як меркавалася раней, парафіраваны не быў. Парафіраванне дакумента вырашана перанесці на больш позні тэрмін.**

**Пытанні эканамічнага супрацоўніцтва разглядаліся і ў час перагавораў славацкага госця з Міхаілам Чыгіром. Як вядома, у свой час рэспублікі інтэнсіўна гандлявалі паміж сабой. Цяпер гэтыя пазіцыі аслаблены. Напрыклад, за сем месяцаў гэтага года гандлёвы абарот склаў 32 мільёны долараў. Натуральна, абедзве дзяржавы выказалі пажаданне выйсці на ранейшыя рубяжы і да канца года давесці аб'ёмы тавараабароту да 60 мільёнаў долараў.**

*АФІЦЫЙНАЯ ХРОНІКА*

### РАШЭННЕ ГЕНЕРАЛЬНАЙ АСАМБЛЕІ ААН

**Падчас пленарнага пасяджэння 49-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН прынята рэзалюцыя аб скарачэнні ўзносаў Беларусі на аперацыі па падтрыманню міру. З групы "В" шкалы ўзносаў Беларусь на працягу 4 гадоў (да 1999 года) паэтапна будзе пераведзена ў групу "С". Да канца пераходнага перыяду сума ўзносу паменшыцца ў 5 разоў.**

*НОВАЕ КОНСУЛЬСТВА*



**20 верасня ў Мінску адкрылася Генеральнае консульства Славацкай рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь.**

**НА ЗДЫМКУ: у час адкрыцця консульства.**

*СТАТЫСТЫКА*

### ЖЫВЕМ УСЁ ГОРШ

**У Міністэрстве статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь падведзены асноўныя вынікі работы народнай гаспадаркі за першую палову 1995 года. У параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года аб'ём выпуску прамысловай прадукцыі ў [illegible]ставімых цэнах склаў 88,2 працэнта. Знізіўся [illegible]ск тавараў народнага спажывання як прадуктовых, так і прамысловых. Спад на 4,3 працэнта назіраўся і ў вытворчасці алкагольных напіткаў.**

**Сельскагаспадарчая галіна таксама не парадавала. Зменшылася вытворчасць малака і мяса. А вось колькасць яек у параўнанні з студзенем—жніўнем мінулага года павялічылася на 1 працэнт.**

*ДАБРАЧЫННАСЦЬ*



**Сіламі грамадскіх арганізацый у Беларусі будзе праведзена дабрачынная акцыя "Мастацтва і дзеці-95". Яна ладзіцца для таго, каб маральна і духоўна падтрымаць дзяцей-інвалідаў, дзяцей-сірот і дзяцей, што пацярпелі ад аварыі на ЧАЭС.**

**Цяпер праводзіцца адбор таленавітых дзяцей для ўдзелу ў гала-канцэрце, які адбудзецца ў тэатры музычнай камедыі.**

**НА ЗДЫМКУ: кампазітар Ігар ЛУЧАНОК праслухоўвае дзевяцігадовую Олю КАВЕЦКУЮ, якая напісала ўжо 11 музычных твораў. Таленавітая дзяўчынка пазбаўлена зроку.**

*ВЫСТАВЫ*

### ПОСПЕХ МТЗ

**Адразу да дзвюх спецыялізаваных міжнародных выставак -- "Сельгастэхніка-95" і "Малая сельгасмеханізацыя-95" -- рыхтуецца Мінскі трактарны завод. Яны пройдуць у першы тыдзень кастрычніка ў Маскве ў выставачным комплексе на Чырвонай Прэсні.**

**На галоўным канвееры ўжо завяршылася зборка будучых экспанатаў. Сярод іх, напрыклад, такія высокаэфектыўныя мадэлі, як МТЗ-82В, МТЗ-920, МТЗ-1221. З асаблівай дакладнасцю падбіраюцца канкурэнтаздольныя ўзоры тавараў народнага спажывання.**

**Нядаўна прадукцыя Мінскага трактарнага пакарыла Пецярбург на чацвёртым сусветным кірмашы "Расійскі фермер-95". Літаральна адразу ж пасля адкрыцця былі куплены два беларускія экспанаты -- мотаблок з сельгаспрыладамі і трактар "МТЗ-1025", астатнія былі распрададзены ў наступныя дні. І з кірмашу мінчане вярнуліся дамоў з ганаровым дыпломам, вялікай сумай грошай і мноствам перспектыўных дзелавых прапаноў на супрацоўніцтва і гандаль.**

*ЖЫЛЛЁВАЕ БУДАЎНІЦТВА*

### ПЕРСПЕКТЫВЫ НЕДАСЯГАЛЬНЫЯ

**Паводле даных Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь, у першым паўгоддзі бягучага года прадпрыемствамі і арганізацыямі ўсіх формаў уласнасці ў эксплуатацыю ўведзена 7,1 тысячы кватэр агульнай плошчай 528 тысяч квадратных метраў.**

**На 1 студзеня 1995 года колькасць сем"яў і адзіночак, якія стаяць у чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоў, складала амаль 652 тысячы. Асноўная колькасць з іх -- жыхары гарадоў і пасёлкаў гарадскога тыпу -- 623 тысячы. Астатнія -- жыхары сельскай мясцовасці.**

*З ПАРЛАМЕНТА*

### БАГАТЫЯ ЧЫНОЎНІКІ І БЕДНАЯ КУЛЬТУРА

**Несумненнай падзеяй першага парламенцкага тыдня стала з"яўленне даклада старшыні Кантрольнай палаты Васіля Саковіча аб выкананні бюджэту на 1995 год, які сведчыць аб тым, што ўрадам пры фінансаванні галін гаспадаркі прыярытэт аддаецца расходам на абарону, утрыманне праваахоўных органаў і органаў кіравання, якія за паўгоддзе амаль вычарпалі выдзеленыя ім бюджэтныя сродкі, у той час як на культуру і ахову здароўя за 7 месяцаў пайшло толькі 35 і 29 працэнтаў сродкаў ад запланаваных у бюджэце на гэты год. У параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года ўдзельная вага бюджэтных расходаў на органы кіравання вырасла ў 2 разы.**

*З КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ*

### ВАЧЫМА СТАРАЖЫЛА

**Бываюць кнігі, якія становяцца рэдкімі ўжо ў дзень выдання. Да такіх, безумоўна, адносяцца "Старонкі з блізкай даўніны горада Віцебска", што належаць пяру славутага этнографа і фалькларыста М.Нікіфароўскага, 150-годдзе якога адзначалася сёлета.**

**Пражыўшы амаль паўстагоддзя ў Віцебску, ён апублікаваў свае ўспаміны аб любімым горадзе ў 1899 годзе. З таго часу кніга не перавыдавалася. І вось з'явілася яшчэ раз дзякуючы выдавецтву "Полымя". Чытаецца яна з захапленнем, як гістарычны раман, хаця ніякага сюжэта ў ёй няма.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

ПРЭЗІДЭНТ прыняў адстаўку Станіслава Багданкевіча з пасады старшыні Нацыянальнага банка, падпісаўшы адпаведны ўказ. Зацвердзіць рашэнне аб вызваленні старога і назначэнні новага кіраўніка НБ павінен Вярхоўны Савет.

ПАНІ Эльжбета Смулэк -- вядомы ў Польшчы беларусіст, якая апошнія чатыры гады была Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом суседняй дзяржавы ў нашай рэспубліцы, вяртаецца на радзіму. Яна зноў будзе прафесарам Варшаўскага універсітэта і зноў прысвеціць сябе вывучэнню і прапагандзе беларускай культуры.

У ГЭТЫМ годзе адбыўся першы выпуск у Асіповіцкай гімназіі. 43 выпускнікі паказалі высокія веды па ўсіх дысцыплінах. 28 з іх сталі студэнтамі прэстыжных сталічных навучальных устаноў: Беларускага дзяржаўнага універсітэта, Політэхнічнай акадэміі, Лінгвістычнага, Эканамічнага, Аграрнага універсітэтаў.

ДЫПЛОМ ганаровага акадэміка Беларускай інжынернай акадэміі за нумарам адзін уручаны ў Брэсце першаму беларускаму касманаўту Пятру Клімуку. Ён зрабіў прыпынак на сваёй радзіме па дарозе ў Зорны з Варшавы, дзе прыняў удзел у XI кангрэсе Асацыяцыі ўдзельнікаў касмічных палётаў.

НА МНОГІХ прадпрыемствах Беларусі зарплату выдаюць адпаведнай прадукцыяй, што не рэдкасць ва ўмовах крызісу. Аднак, калі на Бабруйскім піўзаводзе зарплату пачалі выдаваць спіртам, пратэставаць пачала мясцовая міліцыя, якой прыкметна прыбавілася работы.

Сяргей ПЯСЕЦКІ

# "КАХАНАК ВЯЛІКАЙ МЯДЗВЕДЗІЦЫ"




-- Усё-ё?..

-- Так.

Сашка паклаў партманет на стол. Альфрэд палічыў грошы ў банку і прамовіў:

-- Тут 1 040 рублёў і 370 даляраў!

-- Іду на ўсё! -- адказаў Сашка.

Пабялеўшы, Альфрэд даў Сашку карту. Узяў сабе. Пасьля даў Сашку другую і трэцюю карту. Сашка кінуў іх на стол. Меў 24 ачкі.

-- Я прайграў, -- вымавіў Сашка і пацягнуўся за партманетам, каб выплаціць прайграныя грошы.

У гэты момант адбылася дзіўная рэч. Шчур, выхапіўшы ў Альфрэда карты, крыкнуў:

-- Хлопцы! Калоды пазначаныя цынкам!

Альфрэд знерухомеў. Жывіца паклаў волатаўскую далонь на грошы ў банку. Сашка нахіліўся ўперад.

-- Калоды пацынкованыя?.. Што?.. -- працадзіў глуха.

Альфрэд адхіснуўся.

-- Хлусіць, гадзіна! -- выкрыкнуў ён піскліпым, амаль плакучым голасам.

-- А ты махляр! -- крыкнуў Шчур.

-- Зайздросьціць мне і шукае "салдацкага разрахунку"!

У гэтую хвіліну я заўважыў, што Кручок, які вясёлымі вачыма прыглядаўся да інцыдэнту, схапіў пустую бутэльку ад гарэлкі і кінуўся наперад.

-- Дык ты так гуляеш з хлапцамі!

Стукнуў бутэлькай Альфрэда, і шкло разляцелася на дробныя кавалачкі, Альфрэд прыкрыў твар рукамі, бо Кручок замахнуўся на яго абломкам горла ад пляшкі. Браты Алінчукі кінуліся на выручку. Адзін зь іх схапіў Кручка ззаду за шыю. Шчур умомант бліснуў нажом і крыкнуў:

-- Прэч, падлы!!

Раптоўна сярод іх зьявіўся Жывіца і некалькімі рухамі плячэй парасштурхоўваў усіх у бакі.

-- Памалу!.. Памалу! -- прамовіў ён спакойна.

Сашка падняўся з-за стала і дадаў:

-- Ну, досыць гэтага!.. Зараз паглядзім... Альфрэд, хадзі сюды!

Алінчук наблізіўся да стала. Хусткай абціраў са лба кроў.

-- Карты пазначаныя? -- запытаўся ў яго Сашка.

-- Я ня ведаю... Я купіў карты...

-- Карты купіў, а пазначыў цынкам сам! -- кінуў збоку Шчур.

-- Дзе купіў карты? -- запытаў Сашка.

Вочы ў Альфрэда забегалі па баках.

-- У Вільні купіў.

Шчур пырснуў сьмехам.

Сашка, Лорд і Болек Камета ўважліва агледзелі карты.

-- Так. Карты цынкованыя! -- прамовіў Сашка.

-- Я казаў, -- выгукнуў Шчур і хацеў кінуцца на Альфрэда.

Неспадзявана Сашка тупнуў нагой аб падлогу. Шчур адскочыў. Сашка агледзеў прысутных.

-- У сябе ў хаце не дазволю рабіць бардэль!.. Зразумела? Хто хоча парахавацца, можа зрабіць гэта дзе-небудзь у іншым месцы!..

-- Паставіў у банк 200 рублёў?

-- Так.

Сашка ўзяў з банка 100 даляраў і адклаў банкнот убок.

-- Гэта твае 200 рублёў... Розьніца малая...

Пасьля звярнуўся да прысутных.

-- А зараз, хлопцы, ганарова: хто колькі прайграў Альфрэду -- хай возьме, хто выйграў -- хай кладзе сюды! Але ганарова! Мы не шпанюгі і не альфонсы, а фартовыя!.. Ганарова!..

Разнёсься хор згодных галасоў. Палічылі грошы ў банку. Пасьля парахавалі ўсё прайгранае і выйгранае. Сашка падзяліў банк і выйграныя грошы паміж хлопцамі, якія прайгралі. Пасьля ўзяў 100 даляраў і зьвярнуўся да Альфрэда:

-- А гэта твае!

Альфрэд маўчаў. Сашка зьвярнуўся да Шчура:

-- Засьвяці запалку і спалі гэтае сьмецьце!

Калі Шчур спаліў банкнот, Сашка зноў зьвярнуўся да Альфрэда:

-- А зараз глядзі! Каб больш з хлопцамі не гуляў! Разумееш? Бо разлічымся з табой па-іншаму... Я разлічуся!.. А вас, хлопцы, папрашу "не стукаць" пра тое, што адбылося... Гэта наша справа, і застанецца яна паміж намі!

Альфрэд хацеў нешта вымавіць, але Сашка абарваў яго:

-- Маўчы. У цябе сабачыя вочы і сабачы язык!

Хвіліну маўчаў, а пасьля зноў пачаў гаварыць, зьвяртаючыся да братоў Алінчукоў:

-- Дзякую вам, што прыйшлі да мяне ў госьці... з пазначанымі цынкам калодамі!.. Хацелі нас на дурніцу ўзяць!.. Больш мы ня будзем разам ані гуляць, ані піць!

Зьвярнуўся да Жывіцы:

-- Адчыні вакно!

Жывіца хутка падышоў да[illegible]на і адчыніў яго насьцеж.

-- Было б несправядліва, каб вас я выпусьціў праз дзьверы, -- сказаў Сашка Алінчукам. -- Такіх гасьцей я адпраўджваю праз вакно!.. Ну, ляціце! Адзін за другім!..

Ён паказаў пальцам на ва[illegible].

Алінчукі пачалі па чарзе вылазіць праз вакно ў агарод, а Шчур стаяў пры фрамузе і сьмяяўся. Сьмяяўся весела, нястрымана, заразьліва. Таму ўсе таксама выбухнулі сьмехам. Стрыманасьць захоўвалі толькі Сашка, Жывіца, Мамант і Фэлік Маруда, які працягваў есьці, не звяртаючы ўвагу ні на што.

Пасьля "адыходу" Алінчукоў гульня ў карты спынілася. Хлопцы ўзяліся за выпіўку і ежу. Жвава абмяркоўвалі гэты выпадак.

-- Але ж Шчур вока мае! -- прамовіў Ванька Бальшавік.

Шчур шмаргануў носам.

-- Ведаю я такіх махляроў, пільнаваў яго!

Лорд засьмяяўся.

-- А Кручок добра храбуснуў яго бутэлькай!

-- Пачаставаў гарэлкай! -- дадаў Камета.

Кручок сьмяяўся, весела бліскаючы вачыма.

-- А чаго хамы хлопцаў ашукваюць!

-- Мудра! -- пацьвердзіў Лорд.

Я падышоў да Сашкі і прамовіў:

-- У мяне да цябе ёсьць справа. Можа, выйдзем на хвіліну з хаты?

-- Нешта важнае?

-- Так... Пра Альфрэда...

-- Ага! Ты выйдзі і пачакай мяне пры браме!

Я перасёк хату, у якой адбывалася агульная забава. Зводдаль ад брамы пачаў чакаць Сашку. Час ад часу на падворак выляталі хлопцы з паненкамі. Па кутах чуўся дзявочы шэпт, сьмех і піск.

Хутка падышоў Сашка.

-- Ну, што скажаш?

-- Учора позна ўвечары я вяртаўся дахаты. Было цёмна. Калі замыкаў брамку, ззаду нехта страляў па мне... Чатыры разы.

-- Та-ак?

-- Так! Ведаю, што гэта работа Альфрэда.

-- Адкуль ведаеш? -- жвава запытаўся Сашка.

-- Ведаю. Можа, не сам страляў. Магчыма, хто ці з братоў, альбо наняў каго. Мяне сёньня раніцай адзін пэўны хлопец папярэдзіў.

-- Хто?

-- Ён прасіў, каб нікому не казаў пра яго!

-- Пра што папярэдзіў?

-- Што Альфрэд даў нейкім блатным хлопцам 100 рублёў, каб мяне прыкончылі. Яны прыйшлі да гэтага чалавека і пыталіся: хто я такі? Ён сказаў, каб гэтага не рабілі.

Сашка хвіліну памаўчаў, а пасьля прамовіў:

-- Ведаю, хто гэта табе казаў.

-- ?..

-- Ёська Гусяр.

Не запярэчыў яму. Сашка задумаўся, а я выняў з кішэні кулю, якая сядзела ў сьцяне хаты, і падаў яе. Перамытнік прамовіў:

-- З браўнінга паліў! З сямёркі!

Праз хвіліну запытаўся ў мяне:

-- Што там у цябе з Альфрэдам?.. Можа, пасварыліся?..

Падрабязна расказаў яму пра сутычку з Альфрэдам ля касьцёла, калі праводзіў Фэлю. І пра тое, як прывітаў яго ў хаце Трафідаў, калі ён прыйшоў да Гэлі.

-- Добра, што паведаміў! -- адгукнуўся Сашка. -- Паразмаўляю з Жывіцам. Будзем трымаць яго на воку. А ты не дрэйф.

Я засьмяяўся.

-- Напляваць мне на такіх герояў, што поначы з-за вугла страляюць! Але можа падаслаць на мяне якіх паскуднікаў. Хацеў, каб ты пра гэта ведаў.

-- Добра. Пабачым, што будзе далей. А як зьявіцца неабходнасьць, дык мы раз-два і на шаўро яго пераробім!

Сашка ўжо меўся адыходзіць, аднак мяне ахапіла неспадзяванае жаданьне пагутарыць пра Фэлю. Падумалася, што гэта будзе вельмі добра, калі да канца застануся зь ім зусім шчырым. Я сказаў:

-- У мяне да цябе яшчэ адна справа. Толькі ня ведаю, з чаго пачаць. Як табе пра гэта сказаць...

-- Як хочаш... Можаш не казаць...

-- Расскажу, калі нічога не скажаш Фэлі!

Ён быў відавочна зьдзіўлены.

-- Не казаць Фэлі?!. Ну добра, не скажу.

-- Слова?

-- Кажу: не даведаецца... Гэтага дастаткова. Не давяраеш -- не кажы!

-- Я быў з Фэляй у склепе... Ты паслаў па агуркі...

-- Ну?

-- Я пайшоў... Ты ж папрасіў...

-- Ну, ну?

-- Ну і там, таго...

-- Што?

-- Ну, разумееш...

-- Ты палез да яе?

-- Так.

-- І што?

-- Сказала, што... пасьля шлюбу!

Сашка раптам засьмяяўся. Пасьля, паклаўшы мне на плячо руку, вымавіў:

-- Фэлька не цнатлівачка. Ёй 27 гадоў. Ужо неаднойчы падпускала. Кажу адкрыта... Хоць і сястра... Але што з таго? Лепей мець такую бабу, чым іншую! Будзе табе добрая жонка і самы прыгожы тварык у мястэчку. Я цябе не намаўляю. Як хочаш... Толькі гэта табе Фэля першаму сказала... Не губляй шанец, бо можа перадумаць...

На хвіліну спыніўся, а потым дадаў:

-- Фэлька магла разоў сто замуж выйсьці, але не мела жаданьня!.. Ня ведаю, што гэта на яе зараз наляцела?.. Хлопцы за ёй увіваюцца... Пасаг таксама ёсьць... Пакідаю за ёй усю гаспадарку і 15 000 рублёў. Разумееш? Мне нічога ня трэба. Калі надумаешся, паразмаўляй зь ёй, і зрабіце гэту справу. Я супраць ня буду. Гэта ваш інтарэс. Альфрэд таксама да яе заляцаўся. Два гады яна яго за нос вадзіла, і нічога... Ну, пайду да хлопцаў.

-- Я жаніцца яшчэ не зьбіраюся. Хачу пагуляць... Я яшчэ малады!

-- Гэта твая справа! Хадзем піць альбо ідзі лепей прыгледзься да Фэлі!

Сашка пакінуў мяне ля брамы, а сам пай[illegible]у памяшканьне. Праз хвілі[illegible]ды ж зайшоў і я. Спыніўся ў вялікім пакоі.

Забава працягвалася. Антонік рэзаў польку, а моладзь скакала да змору. Іхнія твары гарэлі ад алкаголю і руху. Заўважыў Фэлю, яна танцавала з Цьвікам. Пачаў за ёй [illegible]ць. Тое, што адбылося зус[illegible]даўна паміж намі, зараз здавалася неверагодным. У яе быў такі халодны недатыкальны выраз твару, танцавала на такой адлегласьці, што цяжка было даць сабе веры, што той выпадак быў рэальнасьцю.

Фэля адчула мой погляд і зьвяла бровы. Прыкмеціў, што Фэля таксама пачала за мной непрыкметна цікавіць. Сама ў танцы зьмянілася. Пачала скакаць прыгажэй і... зь імпэтам. Дражніла мяне. Зразумеў гэта. Агледзеўшы хату, убачыў Бэлку, якая сядзела на лаўцы з Маняй Дзюньдзяй. Падышоў да яе:

-- Паненку Бэлку прашу на скокі!

-- Ой, няма жаданьня... ногі ўжо баляць...

-- Але я вельмі прашу!.. Вельмі!..

Трохі зьдзіўленая, тая паглядзела на мяне. Усьміхнулася.

-- Ну, добра. Але ня доўга.

Пачалі скакаць. Я знарок, каб паказаць, што вельмі ёю захоплены, асабліва блізка прыцісну́ў яе да сябе. Адначасова імкнуўся трымацца бліжэй да Фэлі. Прыкмеціў, што яна таксама пачала больш жвава размаўляць зь Цьвіком і нават сьмяялася.

Забава скончылася вельмі позна. Я праводзіў Бэлку да хаты. Яна жыла на другім канцы мястэчка.

Бэлка адчыніла дзьверы ў сенцы і там узялася за дзьвярную круцёлку ад свайго пакоя. Я пасьвяціў ліхтарыкам.

-- Ты адна жывеш? -- запытаўся ў яе.

-- Так. Матка зь дзецьмі на другой палавіне хаты.

Я прыціснуў яе да сябе. Адпіхнула мяне рукамі.

-- Ведаю, хлопец, чаго ты ад мяне хочаш. Але сёньня нічога ня будзе!.. Трэба адаспацца... Заўтра ў дарогу дыбаю.

-- А калі?

-- Як-небудзь... у цябе ёсьць час... Ну, ідзі, а не, дык замкну ў сенцах дзьверы!..

Моцна, па-мужчынску, яна паціснула мне далонь.

-- Жычу Бэлцы шчасьлівай дарогі!

-- Дзякую. Прыемных сноў!

Я выйшаў на вуліцу. У мястэчку было ціха. Задумлівы, нібы зморaны, лысы месяц плыў сярод хмар. На паўночна-заходнім ускрайку неба мігцела Вялікая Мядзьведзіца. Доўга ўглядаўся на яе... Уздыхнуў і пакрочыў дахаты.

## 11

Надыходзіў канец залатога сезона. Гэта адчувалі перамытнікі і таму працавалі, не шкадуючы сябе.

Болек Лорд сабраў нашу партыю. Зараз ён ужо машыніст. Мамант з Ванькам Бальшавіком, якія пачалі былі хадзіць з партыяй Цьвіка, пусьцілі яго ў трубу і далучыліся да нас. Нам не хапае толькі Юзіка Трафіды, Бульдога і Кітайца, якія сядзяць у астрогах. З намі таксама няма Петруся Філосафа -- ён хворы і застаўся дома пад даглядам гадзіньнікавага майстра Мужаньскага; няма і Салаўя -- выехаў да сваякоў у Маладзечна. Затое сярод нас быў новенькі. Высокі малады хлапец маіх гадоў, заўсёды добра апрануты... нават у дарогу. Празвалі яго, напэўна, зыходзячы з гэтай падставы, Алігантам. Гэта яго першая дарога. Тавар пільнуе Лёва. Тавар танны: алоўкі, пудра, туалетнае мыла, грабеньчыкі, батыст. Бэргер не рызыкаваў даць на першы раз дарагі тавар. Ношкі ў нас лёгкія: па 35 фунтаў кожная. Разам з машыністам Лордам і кантралёрам Лёўкай нас было дзесяць. Сабраліся ў хляве на Загуменнай вуліцы на ўскраіне мястэчка. Там былі прыхаваны ношкі.

З набліжэньнем начы выйшлі і накіраваліся на поўнач. Болек Лорд вёў нас па новай дарозе, па якой некалі хадзіў з групай Булыгі -- слыннага перамытніка, машыніста і праваднiка, забітага вясной 1922 года пры перакідцы "фігурак" з Саветаў у Польшчу.

Я іду задумаўшыся, гляджу на сем цудоўных зорак Вялікага Воза і няведама чаму даю ім жаночыя імёны. Першую ўгары злева называю Эвай, другую -- Ірынай, трэцюю -- Зосяй, чацьвёртую спераду ўгары -- "кола Воза" -- Мар'яй, пятую -- "ніжняе кола" -- Гэленай, шостую --"задняе верхняе кола" -- Лідай, нарэшце, сёмую -- "ніжняе кола" -- Лёняй. Стараюся запомніць гэтыя імёны.

"Добра, што хлопцы ня ведаюць, пра што я думаю! Засьмяялі б мяне! Гэта будзе маёй таямніцай!"

Я ўсьміхнуўся зоркам, і падалося, што тыя сьмяюцца ў адказ сваімі прыгожымі праменістымі вачыма.

Пасьля днёўкі ў лесе выходзім на ноч у дарогу і праз дзьве гадзіны дабіраемся да хутара Бамбіны. Упрэлі, бо крочылі вельмі хутка. Улазім у гумно і пры ўваходзе скідваем з плячэй ношкі. Сядаем на салому, адпачываем. Потым утрох: я, Лорд і Лёва -- ідзём у бок хутара. Падкрадаемся да вакна і назіраем за тым, што адбываецца ўсярэдзіне... Чужых людзей у памяшканьні няма. Бамбіна штосьці робіць пры стале, павярнуўшыся да нас бокам. Пад столлю гарыць вялікая керасінавая лямпа. Уваходзім у сенцы і адтуль у хату.

-- Добры вечар каханай гаспадыні! -- кажа Лорд.

Бамбіна паварочваецца да дзьвярэй. Хвіліну пазірае на нас, а затым, пляснуўшы ў далоні, весела ўсьміхаецца.

-- Добры вечар!.. не спадзявалася... Сядайце!..

-- Што ў вас чуваць? -- пытаецца ў яе Лорд.

-- Усё добра... А ў вас?

Расказваем ёй аб прыгодзе з апошняй партыяй. Пра засыпку Трафіды, Бульдога і Кітайца. Бамбіна па-бабску выказвае свой жаль па хлопцах.

-- Ну, а зараз зноў працуеце? -- прамовіла яна праз хвіліну.

-- А як жа?.. працуем, -- адказвае Лорд.

-- Есьці хочаце? -- пытаецца Бамбіна.

-- Яшчэ як! -- кажа Лорд.

-- Колькі вас прыйшло?

-- Акрамя нас трох, яшчэ сямёра.

Бамбіна ўзялася за работу. Пачала смажыць яечню. Лёўка сказаў, што стаміўся і таму не будзе есьці. Пайшоў спаць на другую палову хаты.

Працяг.

Пачатак у № 29—36.

# ВУЛІЦА, ЯКУЮ ВЕДАЮЦЬ У СВЕЦЕ

(Працяг.
Пачатак на 1-й стар.).

Аднак узвялі яе не на старым, а ў зусім іншым месцы -- праз квартал ад Пакроўскай вуліцы, на адной пляцоўцы са старажытнай Іллінскай царквой, надаўшы ёй рысы псеўдарускага стылю. Знаходзіліся абодва храмы ў непасрэднай блізкасці ад дома Шагалаў, аднак варта адзначыць, што формы новай муранкі-"мураўёўкі" не надта прываблівалі ружовашчокага яўрэйскага хлопчыка з фарбамі і пэндзлямі, які часцей за ўсё маляваў на сваіх палотнах яе суседку -- царкву Іллінскую.

## НА УНІЯЦКІХ ПРЫСМУШКАХ

Паводле даных архіўных дакументаў, у 1913 годзе сярод домаўладальнікаў Вялікай і Малой Пакроўскіх вуліц у Віцебску яўрэі складалі 86 працэнтаў. Прыблізна такая ж сітуацыя назіралася і на астатняй тэрыторыі Прысмушак. Таму можа падацца дзіўным, што ў раёне вельмі кампактнага пражывання яўрэйскага насельніцтва існавалі адразу дзве праваслаўныя царквы -- Пакроўская і Іллінская. Аднак акрэсленае этнаканфесійнае становішча існавала тут далёка не заўсёды. Яўрэі сталі актыўна засяляць гэты раён толькі ў 2-й палове XIX стагоддзя.

У час жа позняга сярэднявечча, калі ў Віцебску пачынаў сваю дзейнасць Шнеур Залман, духоўны правадыр беларускіх хасідаў і родапачынальнік дынастыі хасідскіх цадзікаў і рабінаў Шнеерсонаў, пераважную большасць жыхароў Прысмушак складалі беларусы-уніяты. Уніяцкая Іллінская царква, узведзеная ў канцы XVII--пачатку XVIII стагоддзяў, уяўляла сабой рэдкай прыгажосці ўзор мясцовай школы драўлянага дойлідства. Крыжовая паводле схемы плана, яна складалася з пяці аб'ёмаў, накрытых высокімі шатровымі дахамі з барочнымі купалкамі. Пра тое, што храм вельмі шанаваўся ў наваколлі, сведчылі шматлікія ахвяраванні, зробленыя на яго карысць парафіянамі. Яшчэ ў сярэдзіне мінулага стагоддзя ў царкве можна было бачыць некалькі парных алавяных падсвечнікаў вышынёй у чалавечы рост і вагой у некалькі пудоў з выразанымі на іх па-польску надпісамі: "Ян Сосна, на царкву Св. Іллі Прарока ў Віцебску. 1761"; "Тэафілія з Абрамовічаў Ляшкова, у року 1776"; "Еўдакія Чарнаброўкава Свіршчэўская. Року 1777, месяца ліпеня дня 2, надала на царкву Св. Іллі ў Віцебску".

У 1774 годзе побач з царквой быў вымураваны дом з мезанінам, дзе размясціўся прытулак, які ўтрымліваўся на сродкі парафіян. На сцяне будынка, звернутай да вуліцы, быў накрэслены па-польску надпіс наступнага зместу: "Благаславёны той, хто памятае пра жабракоў і ўбогіх. У страшны дзень збавіць яго Гасподзь".

Рамеснікі сярэднявечнага Віцебска мелі, як вядома, цэхавую арганізацыю, і Іллінская царква была брацкаю царквою цэха кормшчыкаў. Жыццё кожнага цэха мела свой парадак, законы і рытуалы. "Па рацэ Дзвіне плаваюшчыя гаспада кормшчыкі" (так яны акрэслілі сябе ў надпісе на адной з цэхавых харугваў) захоўвалі ў Іллінскай царкве брацкі абраз Св. Тройцы, высокі драўляны падсвечнік, упрыгожаны разьбою, а таксама так званую "брацкую шкапу", у якой знаходзіліся грошы і каштоўнасці ўсяго хаўруса. Апошняя рэч заслугоўвае асаблівай увагі. Падчас цэхавых сходаў яна ставілася на стале "дзеля захавання пачцівасці да цэха і павbooks саміх сябе". Прысутныя на сходзе г[illegible] адкрыцця скрынкі не пав[illegible] былі сядзець у шапках і пры зброі. Скрынкавыя грошы траціліся на царкоўныя, дабрачынныя або цэхавыя патрэбы.

Пасля скасавання уніі ў 1839 годзе Іллінская царква стала праваслаўнай[illegible]льшасць яе уніяцкага начын[illegible], якое ўжо не ўжывалася падчас набажэнстваў, к канцу стагоддзя трапіла ў збор Віцебскага царкоўна-археалагічнага музея.

Першыя дакументальныя сведчанні аб жыцці сям'і Шагалаў на Пакроўскай вуліцы адносяцца да 1897 года. Праз сем гадоў пасля гэтага, падчас вялікага пажару на Прысмушках 13 красавіка 1904 года, драўляная Іллінская царква згарэла. Праз некалькі гадоў яе аднавілі з муру, практычна захаваўшы, што асабліва важна, кампазіцыю і асноўныя архітэктурныя формы драўлянага храма.

Менавіта ў такім выглядзе царкву шмат разоў маляваў Марк Шагал. На палатне "Над Віцебскам", якое зараз захоўваецца ў галерэі Кюнстхауз у швейцарскім горадзе Цюрыху, мы бачым з любоўю і дакладнасцю прапісаныя высокія сцены Іллінскай царквы з пяццю асобнымі шатровымі завяршэннямі, з-за якіх вельмі сціпла, адсунутыя да правага боку карціны, выглядаюць "цыбулінкі" купалаў суседняй Пакроўскай царквы.



Абодва храмы не захаваліся да нашага часу.

## ПАМІЖ ДЗВЮМА ПЛОШЧАМІ

Растлумачыўшы вышэй, чаму насуперак натуральнай логіцы законаў урбананіміі Пакроўская вуліца ў часы Шагала не вяла да Пакроўскай царквы, паспрабуем цяпер акрэсліць лад жыцця яе насельнікаў.

Зафіксаваная ўжо на першым рэгулярным плане Віцебска, які быў канфірмаваны Кацярынай II у 1778 годзе, Пакроўская вуліца звязвала паміж сабой дзве гарадскія плошчы -- Полацкую і Іллінскую. Полацкая плошча, першапачаткова прызначаная "для дробязных крамак і мясных радоў", з цягам часу стала самай буйной гандлёвай плошчай правабярэжнай часткі Віцебска. Як згадваў вядомы віцебскі краязнаўца і фальклрыст М.Нікіфароўскі, на плошчы "па нядзельных днях і радзей -- па серадах ды пятніцах кіпела гандлёвае жыццё, якое тычылася галоўным чынам куплі-продажу сельскагаспадарчых стварэнняў, дробных прадметаў штодзённасці, жывёлы і харчовых прадуктаў". Неадменнымі атрыбутамі гандлёвай плошчы былі "рыначная гамана, прысяганні, спрэчкі, лаянка, спрэчныя і ненаўмысныя штуршкі, працяганне рук у чужыя кішэні за кашалькамі або да паклажы на возе, выкраданне чужога каня і інш.".

Іллінская плошча, на якой заканчвалася Пакроўская вуліца, мела зусім іншы статус, бо лічылася акопнай гарадской плошчай. Каб больш дакладна ўявіць сабе яе асаблівасці, зноў звернемся да каларытных успамінаў Нікіфароўскага: "Акопныя плошчы -- прадольныя чатырохкутнікі -- па свайму ўбогаму стану і неймавернай занядбанасці не маглі ісці нават у параўнанне з гандлёвымі, і хоць з абодвух бакоў іх стаялі мяшчанскія дамкі, аднак ні гэтыя апошнія, ні самі плошчы не прываблівалі прахожых і служылі пастаянным прытонам для бадзяжнай жывёлы, зборным пунктам мяшчанскіх кароў і коз перад выганам на пашу, і толькі летам, калі ў асобных частках яны так-сяк падсыхалі, сюды набягалі дзеткі для гульні ў бабкі, гарадкі або для невялікіх кулачных боек".

Пакроўская вуліца была дастаткова працяглай, даўжыня яе складала 400 сажняў (каля 850 метраў). Пачынаючыся на гандлёвай Полацкай плошчы ўладкаванымі камяніцамі, яна па меры набліжэння да плошчы Іллінскай паступова страчвала сваю прэзентатыўнасць і заканчвалася спрэс драўлянай забудовай, якая нагадвала хутчэй сялянскае жытло.

Развіццё капіталістычных адносін, а асабліва будаўніцтва лініі Рыга-Арлоўскай чыгункі, што была пракладзена праз Прысмушкі ў сярэдзіне XIX стагоддзя, паспрыяла надзвычай актыўнаму росту насельніцтва ўсяго раёна. З'явіліся новыя жыхары і на Пакроўскай вуліцы. Пераважную большасць з іх складалі яўрэі. Апошнімі ж былі адчынены і невялікія прыватныя прадпрыемствы: купец Арон Калбаноўскі стаў уладальнікам тытунёвай фабрыкі, Роня Ліўшыц -- паташнага завода, Абрам Свердлін і Лейба Мнухін -- алеярні.

3 студзеня 1897 года з прашэннем "аб пабудове драўлянага дома ў 3-й частцы г. Віцебска на Пакроўскай вуліцы" звярнуліся ў гарадскую ўправу б[illegible] Марка Шагала -- Хацкель М[illegible]ухаў і Фейга-Іта Мендэлева Шагалы. На той час Марку было 10 гадоў. Нарадзіўся ён у невялікім дамку на супрацьлеглым беразе Дзвіны на Пескаваціку, дзе жыла ў той час сям'я і[illegible]е захаваўся да нашага часу[illegible]водле сведчанняў швейцарскага мастацтвазнаўцы, дырэктара Кюнстхале ў Базелі Франца Маера, зяця М.Шагала, праз некалькі гадоў пасля нараджэння сына сям'я перабралася жыць за Дзвіну. У верасні 1900 года Шагалы падалі новае прашэнне на пабудову аднапавярховага мураванага дома на Пакроўскай вуліцы, а пазней -- яшчэ двух драўляных.

Сям'я Шагалаў была вялікай: бацькі і васьмёра дзяцей. Хацкель Шагал усё жыццё працаваў рабочым у гандляра селядцамі. "Вы калі-небудзь бачылі на карцінах фларэнтыйскіх майстроў фігуры з доўгай, ад нараджэння не голенай барадой, цёмна-карымі, але быццам бы і попельнымі вачыма, з тварам колеру паленай вохры, у зморшчынах і складках? Гэта мой бацька", -- пісаў Шагал у кнізе "Маё жыццё". Маці мастака была жанчынай вельмі энергічнай і ўладарнай.

**НА ЗДЫМКУ: М. ШАГАЛ. "Над горадам ". 1914-1918 гады.**

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

*ВОДГУЛЛЕ*

# АДКАЗ МАЙМУ РЭЦЭНЗЕНТУ

Паважаны спадар рэдактар!

У нумары 25-26 "Голасу Радзімы" змешчана рэцэнзія на зборнік (падаю поўную назву) "Великою ласкою. Франтишек Скорина в традициях славянского просветительства" (М., "Подвиг", 1994). Па праву адказнага рэдактара 1 сааўтара шчыра ўдзячны за выказаную ўвагу да гэтае працы. Адначасна не магу пагадзіцца з вельмі адвольнай інтэрпрэтацыяй рэцэнзентам В.А.Чамярыцкім майго артыкула "Сеятель хвалы Христовой. О просветительстве Скорины". Чытаю ў рэцэнзіі: "Бачыць жа сутнасць усёй маральна-філасофскай канцэпцыі Скарыны ідэі пакорлівасці (смирения), як гэта робіць А.Каўка, і зноў падаваць яго сярэднявечным, глыбокапрацятым страхам Божым і адчуваннем уласнае нікчэмнасці манахам-багасловам, будзе і несправядліва і неаб'ектыўна".

А цяпер прашу ласкава шаноўнага рэцэнзента, заадно і чытачоў "ГР" — дзеля тае ж самае справядлівасці і аб'ектыўнасці -- азнаёміцца хаця б з фрагментам рэцэнзуемага артыкула, скіраванага, як можаце пераканацца, да высновы цалкам процілеглай ад цытаванай вышэй: "Но Скорина -- **не богослов**. Он -- **ученый**, доктор искусств и медицины, врач-практик, словом, человек мирских занятий. С учетом научного знания, реальной человеческой практики подошел он к переводу Священного писания и богослужебных текстов,.. **соединяя** в своем творческом опыте воедино божественное и земное, **веру** в Высший Абсолют **и** прикладное **знание**, откровение и разум, просветление душевное, духовное, через религиозное "суть по Бозе" и просвещенность в мирском понимании (грамотность, образование, -- конкретно у Скорины по тогдашней системе "семи наук вызволеных"), наконец, **мудрость Высшую, Божью** и **мудрость человеческую...** Просветительство Скорины можно определить как пример гармоничного **сочетания** христианской духовности и научного познания, евангельской проповеди и философско-художественной рефлексии, как взаимного схождения путей **религии и культуры, Храма молитвы** и **университета**" (с. 24--25). Такое вось меркаванне, магчыма не бясспрэчнае, пра спецыфіку Скарынавага асветніцтва -- своеасаблівы сінтэз хрысціянскае этыкі і свецкае навукі. Дыскутаваць можна было б па сутнасці пастаўленай праблемы, замест падмены яе адвольнымі, яўна надуманымі ўшчуваннямі накшталт "манаха-багаслова" і падобных застрашальных дзіда з лексікона таварыша Кнорына.

**Аляксей КАЎКА.**

# МЫ ЯШЧЭ СУСТРЭНЕМСЯ

(Заканчэнне.
Пачатак на 4-й стар.).

Першы том гэтага збору, "Антыбальшавіцкія паўстанні на Беларусі", мае выйсці ў гэтым годзе. Кажу "чакае", бо спадзяюся, што не перарвецца шчодры канал паступленняў, пра які дбаюць спадар Кіпель і яго паплечнікі ў Амерыцы. Варта сказаць, што дзякуючы гэтаму каналу, наша Нацыянальная бібліятэка папоўніла свае фонды 700 тамамі беларускай замежнай літаратуры. Недзе ў дарозе знаходзяцца чатыры вялікія скрынкі з кнігамі, што ўвойдуць у збор бібліятэкі імя Я. Коласа АН Беларусі. Супрацоўнікі інстытута бяруць удзел у міжнародных канферэнцыях, дзе можна заявіць пра Беларусь. Інстытут прэзентуе Беларусь у розных славістычных і неславістычных арганізацыях. Ён жа мае сваіх прадстаўнікоў у "Асацыяцыі географаў Амерыкі". Гэта далёка не поўны пералік кірункаў дзейнасці БІНіМа. Асноўнае ж — беларусіка. І палягае яна на тым, каб свабодна аналізаваць гістарычныя і літаратурныя працэсы на Беларусі; на тым, што беларуская дзяржаўнасць запачаткавана не ў XX стагоддзі, а ў часы Полацкага княства; што патрыёты Беларусі былі не толькі партызаны, але і тыя, хто не быў з партызанамі; што эміграцыя — неад'емная частка народа Беларусі...

Сустрэча праходзіла ў атмасферы стрыманай і ў той жа час нязмушанай, па-хатняму цёплай. Людзей сабралася шмат. Слова бралі ўсе, хто жадаў, -- хто падрыхтаваўся і для каго выступленне было амаль экспромтам. Хто б ні выступаў, усе выказвалі нешта вельмі сваё, асабістае, што мела дачыненне да сустрэч з Кіпелямі. Спадары А. Мальдзіс, П. Краўчанка, Н. Гілевіч, Г. Бураўкін, Г. Сурмач, Я. Лецка ўзгадалі розныя эпізоды такіх сустрэч. Прагучаў нават голас жалейкі, а У. Палупанаў праспяваў сваю песню, прысвечаную эміграцыі. Асабіста ж мне, строю маіх думак і пачуццяў, сталіся сугучнымі словы, выказаныя Валянцінай Коўтун. Пра тое, што Мова і Вера духоўна звязаныя, што праваслаўе і каталіцтва -- два крылы гэтае веры на Беларусі. І тое яшчэ сказала яна, што ізноў надышоў час, калі зберажэнне нацыі кладзецца на плечы інтэлігенцыі. І калі гэта так (а так ёсць сапраўды), то, дадам ад сябе, усё, што мы робім, кожнае наша слова ці ўчынак, ці то ў творчасці, ці то ў побыце, мусіць быць на ўзровень, два, тры вышэй за прызнаны стандарт. Нашая сучасная творчасць павінна быць абсалютна канкурэнтаздольнаю. Трэба працаваць і маліцца. Не пашкодзіць таксама ўсім нам яшчэ павучыцца, у тым ліку добрым манерам і добраму густу, каб адпавядаць высокім прэтэнзіям. У сувязі з гэтым узгадалася думка, выказаная нядаўна Зянонам Пазьняком, дарэчы, у тым жа Доме літаратара. Думка гэтая ў тым, што Беларусь і беларуская ідэя перамагаюць малымі сіламі -- інтэлектам, сабранасцю, ахвярнасцю. Так было пры Аршанскай бітве, так было і за нашым мірным часам. Цяпер нацыянальна свядомай інтэлігенцыі няшмат, але... Але будзем маліцца і працаваць. І найвыдатнейшы прыклад у тым нам дае дзейнасць Беларускага інстытута навукі і мастацтва і яго рупліўцы.

Раніцою дня, калі адбылася прэзентацыя, па радыё спяваў Данчык. Некалькі разоў гучала песня "Мы яшчэ сустрэнемся". То й сапраўды мы яшчэ сустрэнемся з вамі, нашы дарагія суайчыннікі.

**Зьміцер КАЛІСТРА.**

# СВЯШЧЭННЫ АГОНЬ АДЗІНСТВА

**Свяшчэнны Агонь -- святыня для ўсіх хрысціян. І такі факт, што праваслаўная царква падзялілася рэліквіяй з каталікамі, першы ў сусветнай гісторыі хрысціянства. Адзіны Агонь, прынесены з найсвяцейшага для кожнага хрысціяніна месца -- ад Труны Гасподняй -- з гэтага дня будзе гарэць перад алтарамі і праваслаўных, і каталікаў. Сумеснае святочнае шэсце праваслаўных і каталікаў, якое суправаджалася перанясеннем Агню ад кафедральнага сабора сталіцы да касцёла святых Сымона і Алены, падзея неардынарная: людзі, якія былі адасоблены паміж сабой, ішлі разам.**

**Свяшчэнны Агонь -- у праваслаўным кафедральным саборы. Агонь -- перад галоўным алтаром у капліцы перад цудатворнай іконай Марыі Божай Будслаўскай у касцёле святых Сымона і Алены -- не проста чалавечы крок дзвюх канфесій насустрач адна адной. Гэта рэалізм хрысціянскай веры.**

**Было засведчана, што гэтая падзея -- не проста крок насустрач адзін аднаму, а сцвярджэнне спрадвечнай хрысціянскай ісціны: побач з верай заўжды павінны быць добрыя справы.**

**Здымкі Віктара СТАВЕРА зроблены ў час урачыстай цырымоніі перадачы і перанясення Свяшчэннага Агню ад праваслаўных -- каталікам.**









# БЕЛАРУСЬ—ЛІТВА: ШЛЯХІ РАЗЫШЛІСЯ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Паланга -- утульны куток на ўзбярэжжы Балтыйскага мора, край легендаў, казак, бурштыну. Да гэтага часу тут жывуць паданні далёкай мінуўшчыны аб трагічным каханні марской багіні Юратэ і звычайнага рыбака Касцііса, аб каралеве вужоў Эгле, аб прыгажуні Бірутэ, якая днём і ноччу сцерагла "святы агонь" і чыё імя стала сімвалам любові да роднага краю. Кожную раніцу можна было назіраць, як нехта нябачны ўпрыгожваў маленькую бронзавую фігурку Бірутэ ля падножжа яе гары ў парку жывымі кветкамі і рабінавымі пацеркамі. Дарэчы, заходняя Літва і ёсць спрадвечная зямля сучасных літоўцаў, якая некалі называлася Жамойціяй. Адчуванне сваіх каранёў у жыхароў Літвы вельмі моцнае.

У той час, калі беларусы адракліся ад сваёй спадчыны— гістарычнай сімволікі і мовы, літоўцы сябе лічаць спадкаемцамі Вялікага Княства Літоўскага. Шостага чэрвеня -- дзень, калі каранавалі караля Міндоўга (дарэчы, адбылося гэта ў Навагрудку), літоўцы адзначаюць як нацыянальнае свята. Ну а беларусы ў гэтым годзе зноў вяртаюцца да свята Вялікага Кастрычніка. Ні ў адным літоўскім горадзе не сустрэнеце больш вуліц Леніна або Маркса. Нідзе не ўбачыце і помнікаў гэтым і іншым вядомым дзеячам сусветнага пралетарыяту. Цяпер яны заменены на імёны вялікіх князёў Вітаўта, Ягайлы, Гедыміна. Літоўцы вывучаюць і шануюць мінуўшчыну, але позіркі іх накіраваны ў будучыню. Яны добра разумеюць, што без ведання гісторыі сваёй дзяржавы нельга вызначыць, якім шляхам ісці далей, куды весці за сабой дзяцей. Пры ўсёй неадназначнасці думак, падыходаў і пазіцый у Літве не ставяцца пад сумненне і не дыскутуюцца суверэнітэт, канстытуцыйная законнасць, нацыянальныя сімвалы, статус дзяржаўнай мовы.

Пасля атрымання суверэнітэту большасць літоўцаў не без ваганняў падтрымала ў рэшце рэшт канцэпцыю пераўтварэння грамадства па заходнееўрапейскаму стандарту. Вядома, што эканамічнае становішча дзяржавы, як і іншых постсавецкіх краін, пакуль вельмі цяжкае. І ўсё ж зрухі на гэтым шляху відавочныя. Тры гады як літ стаў нацыянальнай валютай. Сёння ён прызнаны канверсуемым. У сваёй эканамічнай рэформе літоўскі ўрад надае выключнае значэнне прыватнай уласнасці, прадпрымальніцкай ініцыятыве, канкурэнтнаму асяроддзю, карацей кажучы, усім эканамічным прыярытэтам, якія добра вядомы і спрацоўваюць ва ўсім свеце. Беларусы ж зноў вырашылі вызначыцца і пайсці "іншым шляхам" (дагэтуль нікому невядомым) -- шляхам рыначнага сацыялізму.

Не варта, здаецца, згадваць, што стан прамысловасці абедзвюх дзяржаў крытычны. У Беларусі аб'ём вытворчасці лёгкай прамысловасці за сем месяцаў гэтага года ў параўнанні з мінулым скараціўся на 43,6 працэнта, у тым ліку вытворчасць абутку зменшылася ў два разы, амаль на столькі ж зменшылася і шарсцяных тканін. У тры разы скараціліся вытворчасць тэлевізараў, такая ж сумная сітуацыя з пральнымі машынамі, веласіпедамі. У Літве ж назіраецца тэндэнцыя да спынення спаду вытворчасці і нават дзе-нідзе яе пад'ём. За той жа прамежак часу ў Літве ўдвая ўзрасла вытворчасць хімічнага валакна, кампрэсараў, кінескопаў, электралічыльнікаў. У краіне разгорнута кампанія па абароне ўнутранага рынку (так званы "спажывецкі патрыятызм").

У Беларусі ў жніўні, калі з прылаўкаў раптам зніклі мясныя прадукты, не прыдумалі нічога іншага, як вярнуцца да старой адміністрацыйна-каманднай сістэмы ў выглядзе распараджэння Мінгарвыканкома -- "забяспечыць у горадзе асартымент мяса, мясных прадуктаў і рыбы". Але, як кажуць, колькі разоў ні пішы слова "каўбаса", яна ад гэтага на стале не з'явіцца. У той жа час прылаўкі ў літоўскіх крамах ламаліся ад прадуктаў. У вялікіх (і не вельмі) крамах я налічвала да трыццаці відаў розных каўбас, сасісак, сардэлек, іншых вырабаў, якіх не сустрэнеш у нас і на базары. Больш таго, усе гэтыя вырабы літоўскай вытворчасці, а па выгляду не саступаюць замежным. Што тычыцца цэн, яны былі такія ж, як у Беларусі, або часам значна ніжэйшыя. Трэба дадаць, што цэны на адны і тыя ж замежныя прадукты ў Літве і Беларусі розняцца яшчэ больш. Прывяду толькі класічны "бананавы" прыклад. У Мінску бананы каштуюць 7--10 тысяч беларускіх рублёў, у Літве -- 1,40--1,80 літаў.

Да ўсяго нельга не згадаць, што якасць літоўскіх прадуктаў вышэйшая за якасць нашых. Пра балтыйскія прадукты легенды хадзілі і ў былыя, савецкія часы. Цяпер жа да якасці дабавіўся прыгожы знешні выгляд, а таксама сервіс. У гандлі і сферы абслугоўвання, дзе пануе прыватны сектар, Літва набліжаецца да сусветных стандартаў.

Ні ў якім разе я не хацела б, каб мяне зразумелі, што жыццё ў Літве бязвоблачнае і там усё добра. Жыццё звычайных грамадзян у Літве яшчэ цяжкае. Ёсць і незадаволеныя, і настальгія па савецкім часе. Але ў Літве ніхто не падкідае дровы ў настальгічнае вогнішча па нядаўнім мінулым. Пры ўсёй напружанасці і супярэчлівасці цяперашняга жыцця відавочнае абуджэнне духоўнага стану літоўскага народа, вера ў новае жыццё і спадзяванне толькі на саміх сябе.

Літоўцы паціху-памалу адбудоўваюць сваю дзяржаўнасць, выводзяць з крызісу хворую эканоміку, але па ўсім бачна, што скора яны набяруць хуткасць і моц. І тады з'явіцца ў цэнтры Еўропы новая цывілізаваная дзяржава. (Геаграфічны цэнтр Еўропы, дарэчы, знаходзіцца ў Літве за 25 кіламетраў на поўнач ад Вільнюса).

Беларусы пакуль жывуць толькі нядаўнім мінулым і сумуюць па ім усё больш. Такое ўражанне, што Беларусь хутка пераўтворыцца ў запаведнік, куды будуць прывозіць на экскурсію новыя пакаленні былых савецкіх суграмадзян, каб паказаць ім, як жылі іх бацькі і дзяды і як жыць не трэба.

**Таіса БАНДАРЭНКА.**

# ПРОСЬБА З АНГЛІІ

**Пісьмо з далёкай Англіі прыйшло на імя дырэктара саўгаса "Пяскоўскі", што ў Бярозаўскім раёне. Дзевяностагадовы граф Клаверый Пуслоўскі просіць у ім прыслаць яму У Лондан хоць пару бутэлек водкі.**

**Справа ў тым, што гэтая гаспадарка размешчана на землях былога маёнтка пана Пуслоўскага. Пакінуў вяльможа ў спадчыну саўгасу стары парк, спіртзавод, раскошныя вароты пры ўездзе ў памесце. Яны і сталі графічнай асновай этыкеткі для водкі "Пяскоўская", якую выпускае невялікімі партыямі саўгас і рэалізуе пакуль толькі ў Бярозе і бліжэйшай акрузе.**

**Клаверый Пуслоўскі -- пляменнік пяскоўскага пана. Прачуўшы, што водачная справа роднага дзядзькі адраджаецца, вырашыў граф звязацца са сваімі бярозаўскімі землякамі. "Падкажыце, дзе ў Англіі можна купіць "Пяскоўскую", -- піша ён. -- А калі не цяжка, -- прышліце некалькі бутэлек". У знак удзячнасці граф гатовы падзяліцца са спецыялістамі пяскоўскага спіртзавода старадаўнім рэцэптам водкі, якая выпускалася на гэтым заводзе яшчэ ў пачатку стагоддзя.**

*АДМЕТНАСЦЬ БЕЛАРУСКАЙ МЭБЛІ*

# КАБ СЛУЖЫЛА І СЫНУ, І ЎНУКУ

Напэўна, кожны з нас хоць раз у жыцці, завітаўшы ў музей альбо антыкварную краму, прыпыняўся перад прыгожым крэслам ці шафай, з цікавасцю ўглядаўся ў плаўныя, сугучныя абрысы іх формаў. А ці не ўзнікала ў такія моманты ў вас пытанне: колькі ж тысячагоддзяў павінна было прайсці, каб са звычайнага кавалка бервяна, які калісьці замяняў першым людзям тое ж крэсла, узніклі сапраўдныя шэдэўры мастацтва?!

Ды сёння гаворка пойдзе не пра мастацкую мэблю. Ёй прысвечана шмат выданняў, яна добра прадстаўлена ў нашых музейных экспазіцыях. А між іншым, існуе яшчэ вялікая група мэблі, якая засталася па-за ўвагай даследчыкаў, -- традыцыйная народная мэбля. Яе ўзоры выпрацоўваліся стагоддзямі, яна была дапасавана да жылля, адпавядала мінімальным патрэбам сяляніна. Кожная рэч несла сваю пэўную утылітарную функцыю. Так, для харчавання служыў стол, для працы -- лавы і ўслоны, для сну і адпачынку -- пол і палаці, для захоўвання рэчаў -- кубел, куфар, паліцы.

Увогуле, слова "мэбля" паходзіць ад лацінскага "mobilis", што значыць "рухомы". І некаторыя адзінкі традыцыйнай беларускай народнай мэблі можна толькі ўмоўна назваць гэтым словам, таму што яе асаблівасцю з'яўляецца якраз нерухомасць, стацыянарнасць.

У аснове беларускай народнай мэблі ляжыць гарызантальна замацаваная дошка, якая ў залежнасці ад памераў, месцазнаходжання і вышыні пад'ёму выконвае сваю пэўную функцыю. Адсюль вынікае такая асаблівасць сялянскай хаты, як ярусное размяшчэнне абсталявання. Да ніжняга яруса адносяцца плоскасці лаваў і пола, вышэй -- стол і дзіцячая калыска, далей ідзе ярус паліц і палацяў. Усё разам складае гарманічную кампазіцыю, якой вылучаюцца старыя беларускія хаты. Яе вельмі ўдала дапаўняюць вырабы з так званых "крывулін". Яшчэ і сёння ў вясковай хаце можна сустрэць услончык ці табурэт, зроблены са ствала дрэва з каранямі ці адгалінаваннямі, якія ўтвараюць ножкі.

Для вырабу мэблі выкарыстоўвалі розныя пароды дрэў. Так, на сталы і лавы звычайна ішоў дуб. Мэбля з яго вызначалася масіўнасцю, трываласцю, перадавалася ад бацькі да сына, служыла як бы фамільнай каштоўнасцю. Палаці выраблялі з хвойных народаў дрэў. Непажаданымі былі толькі асіна і алешына. Звязана гэта з народным павер'ем, што "на асіне Юда задавіўся, а на алешыну кроў пускаў", адсюль быццам бы горыч драўніны ў першай і чырвоны колер у другой. Не бралі і "рыпучыя" дрэвы, бо лічылася, што ў іх пакутуе душа грэшніка, якая жорстка помсціла чалавеку, які ссёк такое дрэва і пазбавіў яе прытулку.

У кожнай хаце быў адзін стол. Звычайна яго рабілі "на козлах", дзвюх Т-падобных ножках ці чатырох калонах. Унізе яны маглі злучацца праножкамі. Стальніца звычайна была з'ёмнай, з дзвюх, радзей трох дошак. Падстолле магло мець адну альбо дзве шуфлядкі, дзе захоўвалі розныя дробязі.

Стол у хаце выконваў ролю своеасаблівага алтара, таму і адносіліся да яго з павагай. Гэта была другая па каштоўнасці рэч у хаце пасля абразоў і маліто́ўнікаў. За сталом адбываліся ўсе абрадавыя вячэры, вырашаліся важныя пытанні, за ім блаславілі маладых. І стаяў ён на самым ганаровым месцы ў хаце -- на покуці. Таго, хто клаў на стол шапку, сякеру, нямытую гародніну і іншыя падобныя рэчы, чакалі ўсялякія беды: галаўны боль, аблысенне, сваркі ў хаце, страта статка і інш.





Вакол стала ўздоўж сцен ішлі лавы. Рабілі іх на калодках, "на козлах", пастаўленых на кант дошках, чатырох ножках альбо клалі на ўбітыя ў сцяну стыры. Шырокія масіўныя лавы лічыліся лепшым упрыгажэннем хаты. Яны замянялі крэслы і канапы, у некаторых выпадках на іх спалі. Калі хацелі пасмяяцца з гультая, казалі: "Ён на лаўцы ляжыць і не думае тужыць". Лавы таксама служылі прытулкам для дзіцячых гульняў.

Існавала дзяленне лаваў на "жаночыя" і "мужчынскія". Цела памершага мужчыны клалі на лаве за сталом, насупраць дзвярэй, таму што ён у асноўным працуе па-за хатай. Калі ж памірала жанчына, яе клалі на лаве насупраць печы, таму што яна рыхтавала ежу, вяла гаспадарку.

У абрадавых дзеяннях лава служыла сімвалам шляху, пераходу з адной сацыяльнай групы ў другую. Рытуальнае хаджэнне па лавах адбывалася ў радзіннай і вясельнай абраднасці. У першым выпадку яно сімвалізавала прызнанне новага члена грамадства пасля ачышчэння ад першароднага граху, у другім -- пераход у новую сацыяльную групу дзяўчыны: пасля вяселля яна станавілася маладзіцай.

На пачатку XX стагоддзя на змену лавам прыходзяць драўляныя канапы. Спінкі і падлакотнікі ў іх рабілі суцэльнымі альбо ўпрыгожвалі разьбою.

Для захоўвання бялізны, адзежы, палатна служылі кублы, а з канца XIX стагоддзя -- куфры. Яны ўваходзілі ў дзявочы пасаг. На Беларусі сустракаюцца два варыянты куфроў: усходні, для якога характэрныя звужаныя ўнізе сценкі і фігурна выразаныя ножкі, і заходні -- з вертыкальнымі сценкамі і прамавугольнымі альбо коса зрэзанымі з аднаго боку сценкамі.

Куфры і шафы былі, бадай што, адзінай на Беларусі мэбляй, якая ўпрыгожвалася размалёўкай. У канцы XIX стагоддзя на паўночным захадзе Беларусі з'явілася цацкаванне. Пры гэтым спосабе размалёўкі з гародніны выразалі геаметрычныя фігуры, абмаквалі іх у фарбу і рабілі адбіткі на паверхні вырабаў. На пачатку XX стагоддзя на змену цацкаванню паўсюдна прыходзіць фляндроўка. Выраб спачатку фарбавалі ў светлы колер. Калі фарба высыхала, наносілі яшчэ адзін, цямнейшы слой. Потым рознымі грабеньчыкамі праводзілі рысы, высвечваючы такім чынам ніжні слой фарбы. Для Заходняга Палесся характэрная размалёўка раслліннымі ўзорамі, асноўным матывам якіх быў вазон.

Асобную групу складае дзіцячая мэбля, да якой адносяцца калыскі, стоўкі і хадункі. Калыскі рабілі з дошак у выглядзе скрынкі, плялі з лазы, карэнняў. Самымі простымі былі палатняныя, нацягнутыя на авальную альбо квадратную раму. Такія калыскі было зручна браць у поле.

Першы год свайго жыцця дзіця праводзіла ў калысцы, з яе пачынала спасцігаць навакольны свет. З калыскай быў звязаны шэраг прыкмет. Імкнуліся, каб усе дзеці ў сям'і выраслі ў адной. Тады яны быццам бы будуць трымацца адзін аднаго. Праз калыску нічога не перадавалі, каб дзіця не вырасла злодзеем. Нельга было калыхаць пустую калыску, каб дзіцяці не зашкодзіў нячысцік. У час калыхання забаранялася перагаворвацца, каб дзіця не вырасла языкастым.

Ёсць у беларусаў такая рыса, як практычнасць. Магчыма, калі беларус нешта робіць, ён менш думае аб упрыгажэнні. Галоўнае -- зрабіць так, каб мэбля была зручнай для працы, для адпачынку, для захоўвання вопраткі, гаспадарчых прылад. І ў падсвядомасці гаспадара закладзена: зрабіць не толькі на свой век, але каб рэч служыла і яго сыну, унуку, праўнуку.

**Таццяна ЯЦКЕВІЧ.**

# ВУЛІЦА, ЯКУЮ ВЕДАЮЦЬ У СВЕЦЕ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Пра яе Шагал згадваў наступнае: "У маці быў дар слова, вялікая рэдкасць у бедным прадмесці, мы ведалі і цанілі гэта (...) Яна вядзе гаспадарку, кіруе бацькам, увесь час ладзіць нейкія будоўлі і дабудовы, адчыняе бакалейны гандаль і бярэ цэлы фургон тавару ў крэдыт, не заплаціўшы ні капейкі".

Шмат разоў Шагал маляваў родны дом на Пакроўскай вуліцы. На ягоных палотнах і графічных малюнках мы сустракаем таксама мураванкі і маленькія драўляныя дамкі суседзяў. Не менш выразна норавы жыхароў Пакроўскай вуліцы Шагал здолеў акрэсліць і з дапамогай мастацкага слова. Звернемся да старонак "Майго жыцця": "У суседніх з нашым дамах жылі іншыя сем'і, кожная са сваімі клопатамі. Проста за намі -- дом ламавіка. Ён працуе не менш, чым ягоны конь. Руплівая жывёліна старалася з усіх сіл, цягала цяжкія калёсы. Аднак яшчэ больш надрываўся рамізнік. Цыбаты і худы, вышэйшы за каня, даўжэйшы за калёсы. Ён сядзеў на козлах, з пугай і лейцамі ў руках, падобны на капітана паруснага судна. Вось толькі ветру не было. Наадварот. Зацішша, поўны штыль.

Насупраць стаяў пахілы дамок. Там жыла Танька -- прачка і злодзейка. А на другой палове -- пячнік з жонкай і кучай дзетак. З раніцы да ночы адтуль чуліся шумныя сваркі.

Злева, у невялікім, таксама драўляным дамку, жылі два, а дакладней, паўтара чалавека -- адзін быў карлік. Яны гандлявалі коньмі. А яшчэ кралі галубоў: выманьвалі з чужых галубятняў і адганялі на ляту. На вуліцы часцяком чапляліся да прахожых.

Па суседству з печнікам жыла сям'я булачніка, самая паважаная на нашай вуліцы. Ужо з .ящі раніцы ў іх у вокнах гарэла святло, а з коміна ішоў дым. Печка на кухні палала на ўсю моц. Гадзіна-другая -- і гатовы цэлыя кошыкі выдатных, свежаспечаных булачак. Я бег туды з самай раніцы і выходзіў задаволены, з парай гарачых рагалікаў".

Шагал шмат разоў глядзеў на горад з вокнаў бацькоўскага дома на Пакроўскай вуліцы і маляваў на сваіх палотнах тое, што бачыў з іх. Цікава адзначыць, што архітэктурны краявід віцебскіх прац Шагала для гісторыка горада надзвычай пазнавальны і амаль што дакументальны ў сваёй дакладнасці. Зірніце на краявід карціны "Над горадам", што захоўваецца зараз ў Траццякоўскай галерэі, -- і вы пазнаеце паасобку многія гарадскія аб'екты таго часу. Зірніце на палатно яшчэ раз -- і вы не пазнаеце на ім Віцебск, які страчвае рысы рэальнасці і ператвараецца ў вобраз. Сілай генія мастак пераводзіць гістарычна дакладныя і таму недаўгавечныя факты ў ранг вечных, стварае міф горада, які існуе па-за часам...

## НА НАСТУПНЫ ГОД НА ПАКРОЎСКАЙ ВУЛІЦЫ

Марк Шагал назаўсёды пакінуў Віцебск на пачатку чэрвеня 1920 года. Як значыцца ў архіўных дакументах, усе чатыры дамы нейкі час заставаліся ўласнасцю "спадчыннікаў Шагала", пакуль не былі муніцыпалізаваны ў 1929 годзе. Праз тры гады пасля ад'езду мастака з горада рашэннем Віцебскага губвыканкома Пакроўская вуліца была перайменавана ў вуліцу Жана Жарэса. У ліпені 1941 года разам з уступленнем у горад нямецкіх войскаў былая сядзіба Шагалаў згарэла, ад цаглянага дома засталіся толькі сцены. Пасля вайны гэты дом быў адноўлены прыватным чынам, і сям'я Мейцiных, што працягвала жыць у ім да нядаўняга часу, напачатку нават і не ведала, што будынак мае мемарыяльнае значэнне. Пасля вайны колішнюю Пакроўскую вуліцу зноў перайменавалі, надаўшы ёй на гэты раз імя славутага чэкіста Фелікса Дзяржынскага.

І толькі ў канцы 1980-х імя Марка Шагала пачало вяртацца ў Віцебск. Пяць гадоў назад на радзіме вялікага мастака быў упершыню адзначаны дзень яго нараджэння. З таго часу Шагалаўскія дні ў Віцебску сталі ўжо добрай традыцыяй. У горадзе дзейнічае Арт-цэнтр Марка Шагала, вядзецца рэстаўрацыя яго роднага дома на Пакроўскай вуліцы, якой, зрэшты, вернута першапачатковае найменне. У будучага музея Шагала ўжо ёсць сталае кола добраахвотных памагатых у Германіі і іншых краінах свету, якія збіраюць сродкі на рэстаўрацыю, дасылаюць музею шматлікія падарункі. Калектывам аўтараў прадпрыемства "Віцебскпраектрэстаўрацыя" распрацавана ідэя аднаўлення часткі гістарычнай забудовы Пакроўскай вуліцы, што дасць магчымасць стварыць для мемарыяльнага дома мастака больш натуральнае і адпаведнае яго часу гарадское асяроддзе.

Штогод 6 ліпеня, у дзень нараджэння Шагала, на Пакроўскую вуліцу прыходзяць шматлікія прыхільнікі яго творчасці. Пакінуўшы на час усе свае справы, некаторыя з іх кожнае лета прыязджаюць з далёкіх і блізкіх краін. Пасля наведвання Віцебска ў многіх з іх нараджаюцца новыя палотны, даследаванні, паэтычныя радкі. Як, напрыклад, у балгарскага паэта Хрыста Бякрыева, верш якога на беларускую мову пераклаў Рыгор Барадулін:

### ВІЦЕБСК, 1909

**Маўчанне. Нябёсы распяты**
**ў спакоі**
**ад хораў анёльскіх, ад ран,**
**ад хвалы.**
**Пад імі вісяць і зіхцяць**
**галавою --**
**цыбуліны вымытыя --**
**купалы.**
**Хацінкі, закутыя ў дрэва,**
**у дрымоце**
**гамоняць, адчуўшы адчаю**
**нахлын.**
**І дойлідам дзён трэба**
**жыць у самоце,**
**апошнюю торбачку несці**
**на млын...**
**І дахі -- раўнівымі**
**вартаўнікамі**
**у забытым бязмежжы**
**сышліся на тук!**
**Між смецця задворкаў,**
**што сохне вякамі,**
**з уласнаю доляй гуляе**
**хлапчук.**
**Без пэндзля і літар пачатак**
**на смутак,**
**распяцце дзіцячага свету**
**на жах.**
**А дзве аблачынкі, як**
**белы абутак,**
**паклікаць прыйшлі ў**
**неабсяжны абсяг.**

**Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ.**

**Намеснік рэдактара**
**Дзіяна ЧАРКАСАВА**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**
**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").**



**НАШ АДРАС:**
**220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.**
**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

**Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.**

**Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 3978. Падпісана да друку 25. 9.1995 г.**